леньне сябе зь беларускім народам. Ён піша ад імя мужыка-беларуса і на ягонай мове — па-беларуску.

А там, дзе жывуць беларусы і дзе гавораць па-беларуску — там і любімая Беларусь з паўстанцкага паролю. Па-беларуску гавораць і ў родных для Каліноўскага Мастаўлянах на Беласточчыне, і за Магілёвам. Значыць, гэта ўсё Беларусь.

Гэты запавет Каліноўскага праз 27 гадоў прамовіць удзельнік паўстаньня Францішак Багушэвіч:

> «Можа, хто спытае: гдзе ж цяпер Беларусь? Там, братцы, яна, гдзе наша мова жывець: яна ад Вільні да Мазыра, ад Вітэбска за малым не да Чарнігава, гдзе Гродна, Міньск, Магілёў, Вільня і шмат мястэчкаў і вёсак».

«Лісты з-пад шыбеніцы» — гэта нацыянальна-палітычны маніфэст і асабісты запавет Каліноўскага будучым пакаленьням. Там утрымліваюцца геапалітычныя, эканамічныя і культурна-адукацыйныя пастуляты, выкананьне якіх мае захаваць беларускі народ ад гістарычнай сьмерці.

Гэта — вяршыня і фінальны пункт нацыянальнай эвалюцыі не да канца спольшчанага беларускага шляхціца, ліцьвіна-русіна з былога Вялікага Княства Літоўскага.

За яго прыкладам пойдуць многія ўжо ў XIX стагодзьдзі, а ў пачатку XX стагодзьдзя, як мы цяпер ведаем, сярэдняя і буйная шляхта Беларусі пачне ўжо масава называцца беларусамі.

## Водгук у сэрцах эліты

Прамысловая рэвалюцыя XIX стагодзьдзя амаль не закранула Беларусь, якую ўлады Расеі зрабілі сваёй аграрнай ускраінай. Таму паўстанцы мелі мала апоры ў пераважна габрэйскіх гарадах і зьвярталіся да сельскага насельніцтва — шляхты і сялян. А Каліноўскі, у дзейнасьці якога быў і нацыянальны аспэкт, — толькі да сялян і дробнай шляхты як носьбітаў беларускай мовы і культуры. У паўстаньні прымалі ўдзел і рамесьнікі, але іх было няшмат.

Адпаведна і беларускі нацыяналізм пачатку XX стагодзьдзя амаль не заўважыў звароту да беларушчыны часткі арыстакратаў і шляхты. Ён шукаў апору ў сялянскіх масах і менавіта таму заразіўся сацыялістычнымі ідэямі, якія ішлі з Санкт-Пецярбургу. Гэта пайшло на шкоду нацыянальнай ідэі, выклікала разлад і падзел элітаў, а ў канечным выніку прывяло да аслабленьня руху і адштурхоўваньня арыстакратыі.

Гэты падзел паспрабаваў у 1918 годзе ліквідаваць прэм’ер-міністар Беларускай Народнай Рэспублікі магнат Раман Скірмунт. Ён прывёў у Раду БНР князя Гераніма Друцкага-Любецкага і прыцягнуў да дыпляматычнай дзейнасьці рэспублікі князя Альбрэхта Антонія Радзівіла, графа Юрыя Гутэн-Чапскага, магната Аляксандра Любанскага і іншых прадстаўнікоў арыстакратыі. Але было ўжо позна, геапалітычная сытуацыя разгортвалася не на карысьць БНР.



Прамы нашчадак Рурыка і Рагвалода, дэпутат І Дзяржаўнай думы Расеі, член Рады БНР князь Геранім Друцкі-Любецкі

Буйны землеўласьнік Менскай губэрні Эдвард Вайніловіч, у доме якога праходзіў Беларускі зьезд Случчыны, што ўзьняў Слуцкае паўстаньне, пісаў у сваіх успамінах:

«З усіх беларускіх суполак, прымаючы ў іх удзел матэрыяльна, я ў рэшце рэшт сыходзіў, таму што іх дзейнасьць, якая пачыналася з самапазнаньня і нацыянальнага адраджэньня («Лучынка», «Саха», «Загляне сонца і ў наша ваконца» і т. д.) звычайна ў канцы набывала сацыялістычны кірунак, які супярэчыў усім маім перакананьням і зь якім я ня мог пагадзіцца».

Зь іншага боку, можна канстатаваць, што рэальны ўплыў нацыянальна-палітычнай рыторыкі Каліноўскага на розумы беларускай эліты меў далёкасяжныя наступствы і выявіўся амаль імгненна. Усяго праз некалькі гадоў яго падха-

пілі юнакі, якім падчас паўстаньня было 13–15 гадоў.

Ужо ў 1868 годзе ў Санкт-Пецярбургу ўзьнік «Крывіцкі вязок» — культурна-асьветная арганізацыя беларускай арыстакратычнай моладзі. Паводле сьведчаньня аднаго зь яе ўдзельнікаў, графа Вайніслава Савіч-Заблоцкага, у «Вязок» увайшлі да пяцідзесяці князёў, графаў, сыноў камэргераў імпэратарскага двара і генэралаў. Прычым, як пісаў Савіч-Заблоцкі, сярод удзельнікаў арганізацыі былі ня толькі беларусы, але таксама палякі і расейцы, якія спачувалі беларускай ідэі.

Члены «Вязка» вывучылі беларускую мову, пачалі складаць слоўнік і зьбіраць фальклёр, унесьлі ў агульную скарбонку па 100 рублёў, утварыўшы такім чынам, выдавецкі фонд. У выдавецкім пляне значыліся беларускія лемантары, календары, падручнікі, праваслаўныя і каталіцкія малітоўнікі, кнігі па заалёгіі і гігіене, а таксама папулярная літаратура, у тым ліку байкі Эзопа і зборнікі прымавак і прыказак.

«Вязок» быў разгромлены ў 1870 годзе — адны яго члены былі ўзятыя пад нагляд паліцыі, іншыя высланыя дадому пад хатні арышт, нехта трапіў на лячэньне за мяжу або быў узяты на казённую службу.

Сам малады граф, ураджэнец Віленшчыны Вайніслаў Суліма-Савіч-Заблоцкі быў высланы ў Варшаву, адкуль праз тры гады эміграваў за мяжу. Ён жыў у некалькіх эўрапейскіх сталіцах, блізка кантактаваў з нацыянальным героем Італіі Джузэпэ Гарыбальдзі.



МИНИСТЕРСТВО ЗЕМЛЕДѢЛІЯ.
Статистическій Отдѣлъ
Минской губ. Земской Управы.

Всероссійская Сельско-хозяйственная и поземельная перепись 1917 г.

КАРТОЧКА ДЛЯ СПЛОШНОЙ ПЕРЕПИСИ СЕЛЬСКИХЪ ХОЗЯЙСТВЪ.

Форма № 1.

Губернія Минская, уѣздъ ... волость ...
Общество ... деревня, имѣніе или ... (точно указать)
Фамилія, имя и отч. домохозяина ... (учрежденіе или предпріятіе) №
Сословіе его двор. національность Бѣлор.
Хозяйство: приписное или постороннее—(къ сельск. общ.); бѣженецъ (подчеркнуть)
Подчеркнуть: хозяйство отсутствующее; хозяйство частновладѣльческое.
Близъ какого селенія расположено владѣніе, разстояніе ...
Мѣсто сбыта продуктовъ, разстояніе ...

Перапісная картка князя Гераніма Друцкага-Любецкага, дзе ён пазначае сваю нацыянальнасьць як беларускую. 1917 год



МИНИСТЕРСТВО ЗЕМЛЕДѢЛІЯ.
Статистическій Отдѣлъ
Минской губ. Земской Управы.

Всероссійская Сельско-хозяйственная и поземельная перепись 1917 г.

КАРТОЧКА ДЛЯ СПЛОШНОЙ ПЕРЕПИСИ СЕЛЬСКИХЪ ХОЗЯЙСТВЪ.

Форма № 1.

Губернія Минская, уѣздъ ... волость ...
Общество ... деревня, имѣніе или ... (точно указать)
Фамилія, имя и отч. домохозяина ... (учрежденіе или предпріятіе) № 1
Сословіе его двор. національность Бѣл.
Хозяйство: приписное или постороннее—(къ сельск. общ.); бѣженецъ (подчеркнуть)
Подчеркнуть: хозяйство отсутствующее; хозяйство частновладѣльческое.
Къ владѣльческому и хуторскому хозяйствамъ.
Близъ какого селенія расположено владѣніе, разстояніе
Мѣсто сбыта продуктовъ, разстояніе
Если карточка составлена на арендатора, то фамилія, имя, отч. и сословіе владѣльца земли
Имѣется ли у даннаго владѣльца земля еще въ другомъ мѣстѣ и гдѣ именно?

Перапісная картка графа Юрыя Гутэн-Чапскага, дзе ён пазначае сваю нацыянальнасьць як беларускую. 1917 год

У 1886 годзе ў беларускамоўным лісьце з Парыжу ў Жэнэву да ўкраінскага дзеяча Міхайлы Драгаманава беларускі граф назваў сярод сваіх папярэднікаў Кастуся Каліноўскага і напісаў:

«А збожжа ж усё-такі і ў нас расьце, кроў і ў нашых краўніцах цячэ! Беларусь мая будзе!»

Неўзабаве, у 1906 годзе, у складзе I Дзяржаўнай думы Расеі ўзьнікне беларуская дэпутацкая група, у якую ўвойдуць і арыстакраты, і шляхта, і каталіцкія біскупы, якія пачнуць палітычную барацьбу за аўтаномію і самакіраваньне Беларусі. Сярод іх будуць прамы нашчадак Рурыка і Рагвалода князь Геранім Друцкі-Любецкі, магнат Раман Скірмунт, біскуп Эдвард фон Роп. У 1918 годзе іх барацьба, як ужо і многіх, многіх іншых, скончыцца абвяшчэньнем незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

У пачатку ўсяго гэтага палітычнага працэсу стаіць дзейнасьць Кастуся Каліноўскага, у тым ліку два ягоныя ўрады 1863 году.

## Палітычны запавет

У «Лістах з-пад шыбеніцы» ўтрымліваюцца яшчэ не сыстэмна сфармуляваныя, але ўжо дакладна акрэсьленыя пастуляты беларускай нацыянальнай ідэі. Іх дзесяць. І ўсе яны дагэтуль актуальныя:

1. Самы галоўны зь іх: Мы — беларусы. Гэта слуп, на якім стаіць Беларусь. Каліноўскі цалкам атаясамлівае сябе зь беларускім народам,

фактычна, называе сябе беларусам і сьцьвярджае суб'ектнасьць беларускага народу:

«...Каб знаў сьвет Божы, як мужыкі ***Беларусы*** глядзяць на маскалёў і паўстаньне польскае».

«...Енарал Касьцюшка, што то, кажуць, каля Слоніма радзіўся і а каторым ***народ наш*** сьпявае».

«...***Нам*** пад рондам польскім не заўсім было добра».

2. Каліноўскі называе першаступеннай каштоўнасьцю сувэрэнітэт народу:

«Калі ронд польскі ўсім братнім народам дае ***самарондства***, маскаль... гэтак ня робіць».

3. У некалькіх месцах Каліноўскі называе вялікай каштоўнасьцю патрыятызм. Вось адно зь іх:

«...Ты, аднак, народзе, не дажыдайся, да з чым можаш ідзі ваяваці ***за свайго Бога, за сваё права, за сваю хвалу, за сваю бацькаўшчызну***».

4. Каліноўскі ставіць пытаньне пра сацыяльную справядлівасьць у будучым беларускім грамадстве:

«...Ронд наш павінен быць на ўсё чуткі, каб мог ***для дабра народнага за ўсяго карыставаць***».

5. Каліноўскі адкідае расейскі тэзіс пра «брацтва» беларускага і расейскага народаў, моцна яго крытыкуе, піша пра рэкруцкія наборы, высылкі ў Сібір і параўноўвае расейскіх чыноўнікаў з саранчой. Паводле Каліноўскага, Расея

«пабіўшыся з палякамі, ***каб удзяржаць сваё панаваньне, да нашага брацтва хоча ўпісаціся***».

6. Каліноўскі разумее, што з усіх суседзяў Беларусі менавіта Расея распрацавала найбольш

грунтоўны комплекс ідэалягічных і гістарычных аргумэнтаў для асыміляцыі беларусаў. Ён піша пра несправядлівую забарону Ўніяцкай царквы і, фактычна, выказваецца за яе вяртаньне:

«...Каб сьлёзы мужыцкія ня трапілі перад трон праўдзівага Бога, ***забралі нам і духоўну нашу пацеху — нашу веру ўніяцкую***».

7. Каліноўскі ставіць пытаньне пра адукацыю на роднай мове. Два апошнія тэзісы, відавочна, разумеюцца ім як процівага асыміляцыі:

«...***Маскаль... там, дзе жылі палякі, літоўцы і беларусы, заводзіць маскоўскія школы, а ў гэтых школах вучаць па-маскоўску, гдзе ніколі не пачуеш і слова па-польску, па-літоўску да і па-беларуску***».

8. Каліноўскі высоўвае тэзіс пра разьвіцьцё ў будучай Беларусі ўсеагульнай адукацыі, культуры і навукі як гарантыю ўсеагульнага дабрабыту:

«...***Нямаш, браткі, большага шчасьця на гэтым сьвеце, як калі чалавек у галаве мае розум і науку. Тагды ён толька магчыме жыці ў багацтве, па праўдзе***».

9. Каліноўскі называе найбуйнейшую геапалітычную пагрозу для існаваньня Беларусі і беларускага народу. Гэта — «маскаль», Расея:

«***Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тагды толькі зажывеш шчасьліва, калі над табою Маскаля ўжэ ня будзе***».

10. Каліноўскі ставіць пытаньне пра неабходнасьць арыентацыі Беларусі на Польшчу, а значыць — на Захад. Ён відавочна яшчэ ня мае яснага бачаньня далейшага лёсу сваёй краіны,



Сям'я Ямантаў. Стаіць зьлева — нарачоная Каліноўскага Марыя Ямант, «Марыська чарнаброва»

ня ведае, у якой форме будзе захаванае адзінства Польшчы, Літвы і Беларусі — фэдэрацыі, канфэдэрацыі ці нейкай іншай форме дзяржаўнага саюзу — і ці будзе яно захаванае наогул. Але праз увесь тэкст «Лістоў з-пад шыбеніцы» параўноўвае парадкі і падыходы «ронду польскага» з «рондам маскоўскім» і прыходзіць да высновы, што

«...***Польскае дзела гэта наша дзела, гэта вольнасьці дзела***».

«Для таго, Народзе, як толька калі пачуеш, што ***браты твае з-пад Варшавы б'юцца за праўду і свабоду***... грамадой ідзі ваяваці за сваё чалавечае і народнае права, за сваю зямлю радную».

Арыентацыю на Польшчу XIX стагодзьдзя ва ўмовах тагачаснага процістаяньня з Расеяй — у XXI стагодзьдзі можна сьмела трактаваць як заклік Каліноўскага да празаходняй геапалітычнай арыентацыі Беларусі і жыцьцёвую неабходнасьць такой арыентацыі для народу і краіны ў будучыні.

Апошняя цытата наогул усёабдымная. Яна адна можа быць і палітычным запаветам, і нацыянальнай ідэяй. Тут зьвяртаюць на сябе ўвагу тэзіс пра «чалавечае права» (захаваньне правоў чалавека), пра «народнае права» (захаваньне нацыянальных правоў), а за заклікам ваяваць «за сваю зямлю радную» зноў стаіць тэзіс пра вялікую каштоўнасьць патрыятызму і любові да Бацькаўшчыны.

Гэта — клясыка беларускай палітычнай ідэі, яе вытокі.

## Сымболіка ягонай сьмерці

На дзейнасьць і тэксты Каліноўскага можна паглядзець з пункту гледжаньня моднай у яго часы філязофіі гісторыі нямецкіх мысьляроў Шэлінга і Гегеля. Развагі ў сымбалічных катэгорыях прыводзяць да наступных высноваў.

Шэлінг падзяліў усе народы на гістарычныя і негістарычныя. Паводле яго, гістарычны народ рэалізуе нейкую звышідэю дабра, праўды і красы. Негістарычныя народы такога пакліканьня ня маюць і таму знаходзяцца ў духоўным рабстве ў гістарычных.

Гегель лічыў, што гісторыяй кіруе сусьветны дух, які самарэалізуецца і пазнае самога сябе. Паводле Гегеля, кожны народ мае права зрабіць свой унёсак у гісторыю, але ў канкрэтны пэрыяд гісторыі сусьветны дух аддае перавагу аднаму народу-пераможцу. Народ-пераможца заўсёды мае рацыю, бо абраны на сваю ролю духам гісторыі.

Славян на герархічнай лесьвіцы гісторыі Гегеля не было зусім. Ён лічыў, што славяне асуджаныя на пажыцьцёвае рабства ў нямецкай цывілізацыі. Менавіта немцы, паводле Гегеля, былі тагачаснай вяршыняй сьвету.

Тым ня менш, абодва гэтыя нямецкія філёзафы ў 30–50-я гады XIX стагодзьдзя зрабілі вялікі ўплыў на грамадзкую думку Расеі. «Заходнікі» з Гегелем згаджаліся і заклікалі Расею працягнуць шлях, вызначаны Пятром І. «Славянафілы» адкідалі тэзіс нямецкіх філёзафаў пра перавагу германцаў як спадчыньнікаў Рыму і лічылі Расею асобнай славянскай цывілізацыяй, пераемніцай Грэцыі.

У маленькім сусьвеце, якім для Каліноўскага зьяўлялася ўсходняя Эўропа зь пераможнай Расеяй і пераможанай Польшчай, была свая драма і свой выклік. Для беларусаў пераможцамі былі і Расея, і Польшча. Ад імя беларусаў Каліноўскі кінуў выклік абодвум народам-пераможцам і нямецкай філязофіі гісторыі наогул. І выйграў.

Ён нібы адчуваў, што кароткага пэрыяду ягонай дзейнасьці і ягоных тэкстаў аказалася недастаткова, каб ужо тады абудзіць беларусаў да гістарычнага быцьця і вывесьці іх на шлях са-

марэалізацыі і дасягненьня ўсеагульнага «народнага дабра», таму не захацеў эміграваць і пайшоў на найвышэйшую ахвяру.

Перад сьмерцю ён сымбалічна адмовіўся ад паслугі сьвятара і напісаў пра гэта ў «Лістах з-пад шыбеніцы», каб нашчадкі дакладна ведалі, чаму ён адмовіўся ад «неба» і дзеля чыёй «праўды»:

Калі за нашу праўду Бог нас стаў караці
Дай ў прадвечнага саду вялеў прападаці,
***То мы прападзем марна, но праўды ня кінем***,
***Хутчэй Неба і шчасце, як праўду, абмінем***.

Гэта агаломшвае! Сьмерць уласнай душы, сашэсьце ў пекла для абуджэньня і ўратаваньня душы народу! Паводле хрысьціянскай традыцыі, так зрабіў Ісус Хрыстос, калі пасьля сьмерці на крыжы сышоў у пекла, зьнішчыў яго і вывеў адтуль праведнікаў — свой народ.

Першы палітык мог паступіць толькі так, ён мусіў пайсьці да канца. Інакш нельга было перамагчы народы-пераможцы — расейцаў і палякаў.

Яго сьмерць у процістаяньні з гэтымі народамі, несумненна, мела сваю трансцэндэнтную сымболіку. Каб перамагчы сусьветны дух і яго абраньнікаў — гэта значыць адстаяць «нашу праўду», пад якой можа разумецца толькі праўда беларуская, патрэбны чын — нешта вельмі моцнае, магутнае, напрыклад, нечуваная, неверагодная ахвяра.

Каліноўскі выбірае поўны, татальны нябыт — сьмерць і фізычную, і духоўную; ахвяруе ня толь-




Лукіскі гандлёвы пляц у Вільні ў 1860-я гады XIX стагодзьдзя. На пярэднім пляне месца, дзе адбылося пакараньне сьмерцю Кастуся Каліноўскага

кі целам, але і душой. Для верніка адмаўленьне ад вечнага жыцьця («Хутчэй Неба і шчасьце, як праўду, абмінем») — гэта катастрофа.

Адначасова ён не адступаецца ад свайго народу і яго дабра: «...Мы прападзем марна, но праўды ня кінем». Ён лічыць, што маштаб ахвяры варты ягонай мэты.

Ахвяра Каліноўскага не была адмаўленьнем ад веры і ад Бога. Наадварот, ён застаецца шчырым вернікам, бо дзейнічае ў сыстэме хрысьціянскіх каардынат — Бог, Неба, пекла — і хрысьціянскага запавету: «Няма большае за тую любоў, як калі хто пакладзе душу сваю за сяброў сваіх» (Эвангельле ад Яна, 15:13)

Каліноўскі дакладна ведаў ад чаго адмаўляецца, дзеля каго адмаўляецца і дзеля чаго. Ён ведаў,

што стварае народ, нацыю, краіну і дзяржаву. І напісаў пра гэта адкрыта і мэтафарычна:

Бывай здаровы, мужыцкі народзе,
Жыві ў шчасьці, жыві ў свабодзе.
І часам спамяні пра Яську твайго,
Што згінуў за праўду для дабра твайго.

А калі слова пяройдзе у дзела,
Тагды за праўду станавіся сьмела,
Бо адно з праўдай у грамадзе згодна
Дажджэш, Народзе, старасьці свабодна.

У гэтых радках — уся яго нацыянальна-палітычная праграма. Ён гіне за беларускі народ (Бывай здаровы, мужыцкі народзе), да якога залучае і сябе (Яську твайго). Гэты народ мае згуртавацца (у грамадзе згодна) вакол нацыянальнай ідэі (адно з праўдай) і стварыць сваю краіну, якая будзе заможнай, справядлівай і незалежнай (Жыві ў шчасьці, жыві ў свабодзе), бо шчасьце і свабода народу магчымыя толькі ў сваёй незалежнай дзяржаве. І дзяржава гэтая ня толькі народзіцца, але пражыве доўга, пасьпее пасталець і пастарэць (Дажджэш, Народзе, старасьці свабодна).

Чын Кастуся Каліноўскага натхняў многія пакаленьні беларусаў, а яго выхад зь зямлі праз 155 гадоў і містэрыя пахаваньня ў драматычны для беларускай незалежнасьці час — натхняюць і дапамагаюць далей.

А сьвятарскую паслугу ён у 2019 годзе, падчас пахаваньня ў Вільні, атрымаў спаўна! У Бога часу не існуе.

## Хто ён для нас

Яшчэ ў Санкт-Пецярбурскім унівэрсытэце студэнты назвалі Каліноўскага апосталам — за глыбокую перакананасьць у сваіх ідэях.

Пасьля сьмерці апосталам яго назвалі і сучасьнікі. Польскі гісторык Юзаф Яноўскі так і напісаў пра яго:

«Шчыры апостал беларускага народу».

Кастусь Каліноўскі сапраўды зьяўляецца апосталам Беларусі, апосталам беларушчыны і беларускай мовы. Але ня толькі.

Вінцэнта Канстанціна (Кастуся) Каліноўскага можна сьмела называць

- барацьбітом за беларускую нацыянальную ідэю,
- айцом беларускай нацыі,
- палітычным бацькам Беларусі.

Пры ўважлівым аналізе робіцца відавочным, што беларускія палітыкі пачатку XX стагодзьдзя былі ідэйнымі нашчадкамі і пасьлядоўнікамі Кастуся Каліноўскага.

Айцу-заснавальніку мадэрнай Беларусі было ўсяго 26 гадоў, калі ён прыняў пакутніцкую сьмерць за бацькаўшчыну, напісаўшы перад гэтым:

«Горка пакінуць зямельку родную і Цябе, дарагі мой народзе...»

Паклонімся яму.

*Лістапад 2019 — студзень 2020,*
*Прага*

## Крыніцы і літаратура:

Юліюш Бардах. Штудыі з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Менск, 2010
Беларуская літаратура XIX стагодзьдзя. Хрэстаматыя. Укладальнікі Алег Лойка і Вячаслаў Рагойша. Менск, 1988
Васіль Герасімчык. Канстанцін Каліноўскі: асоба і легенда. Горадня, 2018
Калиновский К. Из печатного и рукописного наследия. Минск, 1988
Кастусь Каліноўскі. За нашую вольнасьць. Творы, дакумэнты. Укладальнік Генадзь Кісялёў. Менск, 1999
Вінцэсь Каратынскі. Творы. Менск, 1994
Генадзь Кісялёў. Пачынальнікі. Менск, 1977
Генадзь Кісялёў. Героі і музы. Менск, 1982
Генадзь Кісялёў. Смак Беларушчыны. Менск, 2013
Генадзь Кісялёў. Выбранае. Менск, 2016
Алег Латышонак. Нацыянальнасьць — беларус. Менск, 2009
Нации и национализм / Mapping the Nation (New Left Review, 1996) Авторы: Б. Андерсон, О. Бауэр, М. Хрох, Ю. Хабермас, М. Манн и др. Москва. 2002
Генадзь Сагановіч. Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасьці да канца XVIII стагодзьдзя. Менск, 2001
Аляксандар Смалянчук. Раман Скірмунт (1868 – 1939): жыцьцяпіс грамадзяніна краю. Менск, 2018
Каміла Янушкевіч, Язэп Янушкевіч. Партрэты паўстаньня. 1863-1865. Ракаў, 2019
http://kalinouski.arkushy.by
http://pawet.net

# Дадатак

## Кастусь Каліноўскі. Да беларускага народу (Лісты з-пад шыбеніцы)

***

І да нашага кутка даляцела ваша Газэтка, і мы яе з увагай прачыталі; вельмі яна ўсім спадабалася, бо праўда напісана. Прыймеце для таго нашу падзяку, а пісьмо аддрукуйце, каб знаў сьвет Божы, як мужыкі Беларусы глядзяць на маскалёў і паўстаньне польскае, чаго яны хочуць і чаго па сваей сіле дабівацціся будуць. Слова наша простае, но зато шчырае; калі яно дойдзе да ронду польскага, адкрые яму нашу грудзь да і пакажа, што па-нашаму рабіці трэба, каб панаваньню маскоўскаму не цяпер, то пазьней канец ужэ палажыці.

За ўсіх старон маскалі цяпер талкуюць нам без устанку а сваём брацтве з намі. Праўдзіва дзівота, жывучы пад рондам маскоўскім гэтулькі часу, цяпер ледзь мы аб гэтым пачулі, для таго не без карысьці будзе паглянуць, як гэта маскоўскія браты самі ў сябе гаспадарылі да і з намі рабілі, каб пазнаць іх шчырасьць і права на брацтва нашае.

Не будзем гаварыці, зь якіх народаў маскалі паўсталі, брацтва там ня многа найдзем, няволя манголаў да і цароў маскоўскіх заўсім забіла ў гэтам народзе ўсякую памяць а свабодзе да і зрабіла зь яго грамады людзей паганых бяз мыслі, бяз праўды, без справядлівасьці, без сумленьня

да і без баязьні Боскай. З гэтакім народам цары маскоўскія, што то жывуць людзкою крыўдаю, падбілі зямлю нашу пад сваё панаваньне, тут то мы іх і пазналі, гэтых, як яны сябе называюць, братоў нашых.

Ронд польскі, правіўшы намі, ня браў з нас рэкрута, не адрываў народу ад дзяцей, ад бацькоў да і ад зямлі роднай і ня гнаў гдзесь у канец сьвета, каб завадзіць няволю, выціскаць сьлёзы і праклёнства на душы нашай. Ронд польскі калі браў з нас падымнае, то не заводзіў гэтакіх стаенных падаткаў па душы нашы, што то да Бога адно належаць. Ронд польскі, маючы Бога ў сэрцу, не ўпісаў нас у сызму, у каторай адно за цара да за цара маліціся трэба, як бы ўжэ цар быў Богам на сьвеце, а вера да казны належала. Ронд польскі ўжо таму будзе 70 лет, выпеважаючы многа суседзкіх народаў, пачаў ужэ талкаваці а свабодзе мужыцкай і роўнасьці братняй мужыка з шляхціцам, а енарал Касьцюшка, што то, кажуць, каля Слоніма радзіўся і а каторым народ наш сьпявае, што ён вельмі быў добрым і маскаля крэпка біў, высказаўся ён за вольнасьць нашу, но маскаль то перашкодзіў і завёў свае ронды.

Пагляньма ж цяпер, што ён зараз пачаў рабіці, гэты дабрадзей мужыцкі, як сам цяпер кажа: найперш, каб не магло выробляціся сумленьне народнае, пакасаваў маскаль усе сходкі людзей выбарных, усе школы нашы, а так, абабраўшы з сумленьня да і з розуму, а завёўшы ў нас свой парадак маскоўскі, пазволіў кожнаму дужшаму глуміцца над бедным як толька хоча. Паноў

заўсім увольніў ад усякіх ценжараў, даў ім права завадзіць паншчыну маскоўскую, а яна то ня тры дай ня шэсьць дзён з хаты, но 6 дзён з душы рабочай. Мужыку ня толька што ня даў ніякага права, но яшчэ адабраў і тое права, якое ён меў ад ронду польскага; многа людзей вольных да і каралеўшчызны вялеў у паншчызну ўпісаць, кажнаму можна было мужыка крыўдзіць, а чыноўнікі маскоўскія не рабілі яму ніякай справядлівасьці, но яшчэ калі суд на глум не ссылаў мужыка ў Сібір, то аддаваў на вечнасьць у салдаты. Калі які пан, паслухаўшы сумленьня, ішоў за праўду і справядлівасьць і спраціўляўся прыказу царскаму, каторы кажа: «дзяры, бяры да і маўчы», тады яго, калі не ўцёк да пранцуза, у турму бралі да і ў Сібір гналі, а двор з людзьмі ў казну забралі, стуль то ў нас і мужыкі казённыя. Пярвей яны служылі казьне паншчызну, а посьле ў аброк іх упісалі, дай акром аброку ганялі без ніякай падзякі ўсялякаму чорту на работу: то акружному, то асэсару дай кожнаму, хто адно перакупіў.

Начальства ось то якое маскоўскае для мужыкоў, а нібы дабрадзей! Няхай той сам судзіць, хто пісьмо маё чытаці будзе, я адно скажу па шчырай праўдзе: што калі нам пад рондам польскім не заўсім было добра, то як маскаль стаў намі правіць, зрабіў ён для мужыкоў чыстае пекла на сьвеце.

Тут сказаці яшчэ трэба, што ён змусіў нас пакідаці бацькаўшчызну, ісьці ў рэкруты, дай ваяваці не за прыказ Боскі, не за праўду і справядлівасьць, но за глум, за няволю ня раз праціў

братоў да бацькоў нашых. Тут сказаці трэба, што маскаль, дабрадзей мужыцкі, зьняўшы з паноў усялякія падаткі, зваліў іх адно на мужыцкае племя, аблажыў падаткамі і мужыцкую зямлю, і мужыцкія хаты, і мужыцкую душу, і мужыцкія дзеці, і мужыцкую скаціну, жывых і ўмершых.

Но ня тут яшчэ канец маскоўскага дабрадзейства. — Зь дзядоў і прадзедаў была ў нас уніяцкая вера, гэта значыць, што мы, будучы грэцкай веры, прызнавалі за намесьнікаў Боскіх сьвятых айцоў, што ў Рыме. Царом маскоўскім і гэта стала завідна, для таго, скасаваўшы ў Маскве грэцкую веру, а зрабіўшы царскую, што то называецца праваслаўе, і нас адарвалі ад праўдзівага Бога і ўпісалі ў сызму пагану. Такім спосабам, ababраўшы з гроша, з рук спасобных, запраглі нас у паншчызну, і каб сьлёзы мужыцкія ня трапілі перад трон праўдзівага Бога, забралі нам і духоўну нашу пацеху — нашу веру ўніяцкую. Праўда, людцы, ёсьць за што падзякаваці!..

А чыноўнікі то маскоўскія — яшчэ адно дабрадзейства. Чытаў я ў ксёнжках, што ёсьць на сьвеце якась саранча, катора як гдзе пакажацца, усю худобу гаспадарску зглуміць. Маем мы, браткі, горшую яшчэ ад той саранчы, а гэта чыноўнікі маскоўскія з сваёю «праўдаю» і «справядлівасьцею», яны людзі вельмі здатныя, што то па-маскоўску «праворныя», умеюць так аблізаць чалавека, што з рук іх выйдзеш голенькі як маці радзіла — і жыві пад гэтакім рондам без суду і праўды.

Зараз па вайне з пранцузам пад Севастопалем пачалі меж намі слухі хадзіці, што маюць мужыкам даць вольнасьць. Ждалі мы доўга, аж нарэшце тры леты таму выйшаў указ царскі, — праўда, многа там было напісана, а карысьці то для нас мала. Парабілі адно канцылярыі, пасрэднікаў, старшынаў, пісараў усё за грошы мужыцкія, а паншчызну як хадзілі, так і трэба было хадзіці. Дачуўшы мы гэта, сталі праціўны, і тут то і маскалі нашліся, каб прымусіць нас да міласьці царскай, а нагайка казацкая мела скрапіць наш братні ўзёл, ня ведаю адно з кім: ці з панамі, ці з маскалямі. Няхай за мяне скажуць тыя, што мелі ахвоту скрапляці, дабрадзеі нашыя, браты маскоўскія.

Трудна сказаць, як доўга мы бы паншчызну хадзілі, каб не паўстаньне польскае. Ронд польскі, аб’явіўшы свой маніхвэст, зямлю мужыцкую аддаў мужыком на вечнасьць, і мы то перасталі зараз паншчызну хадзіць. А калі Бог усёмагучы навярнуў паноў да праўды і зрабіў іх паслушнымі прыказам ронду польскага, тагды маскалём настаў кепскі час, і ён мусіў паняволі прыпісацца да нашага і жыдоўскага брацтва. Бач, які мудроны брат; аднак крыху і так ашукаўся, бо як той казаў: «і ў брата не свая хата», і брат пайшоў бы ў паўстаньне, каб меў якую качаргешку ў рукі ўзяці; а жыд, хаця пагаворка і кажа: «што як бяда, то да жыда», не заўсягды голых прымае, тым бардзей такіх, што нажлапталіся нямала і сьлёз і крові жыдоўскай.

Но каб ляпей пазнаць маскоўскую хітрасьць, пагляньмы шчырым окам, што цяпер маскалі выраблялі з намі, у гэту ліхую для сябе гадзіну, калі, пабіўшыся з палякамі, каб удзяржаць сваё панаваньне, да нашага брацтва хоча ўпісаціся; ронд польскі цяпер аддае нам на вечнасьць зямлю нашу за нашу працу, маскаль піша дай устанаўляе якіясь там чыншы, каторым ніколі ніякага канца ня будзе, як то меж мужыкамі казённьмі. Калі ронд польскі дае нам вольнасьць праўдзівую, маскаль, не кажу цэлымі сёламі, а цэлымі грамадамі гоніць людзей, заўсім адняўшы свабоду, у сібірскія пустыні.

Калі ронд польскі ўсім братнім народам дае самарондства, маскаль мала таго, што гэтак ня робіць, но яшчэ там, гдзе жылі палякі, літоўцы і беларусы, заводзіць маскоўскія школы, а ў гэтых школах вучаць па-маскоўску, гдзе ніколі не пачуеш і слова па-польску, па-літоўску да і па-беларуску, як народ таго хоча, а ў гэтыя школы адно з другога канца сьвета маскалёў насылаюць, што толька ўмеюць красьці, людзей абдзіраці дай служыць за грошы паганаму дзелу на глум народу. Дзікі маскаль думае, што калі можа народ абдзіраці за ўсякага дабытку, то і патрапіць кажнаму ўбіць у галаву свой дурны розум, дурны для таго, што розум маскоўскі калі ня раз харашо кажа, то ніколі па-людзку нічога ня робіць, адно людзей абманывае, а перад кнутом царскім гнецца, як астатні валацуга.

Трудна ўсё гэта расказаці, што мы ўжэ кроўю запісалі, так што сьлёзы льюцца, чытаючы

бяспраўе, якое маскалі рабілі дай да гэтай пары яшчэ робяць. Хто хоча дазнаць праўдзівага смаку, няхай сам пажыве пад рондам маскоўскім, то і паглядзіць, якое дабрадзейства мужыкі мелі; ось то для чаго кажам: што польскае дзела гэта наша дзела, гэта вольнасьці дзела.

Но ня мала працы трэба, каб здабыць гэту свабоду, каторай жджэ ўсякі, пачаўшы ад дзіцяці да старога дзеда, бо калі маскаль гэтулькі лет упускаў свае пазуры ў грудзь нашу, так ня дзіва, што трэба пацярпець доўга, каб вырвацца з-пад яго братняй апекі, для таго і не без карысьці будзе, калі цяпер паталкуем, якія мы маем на то спосабы; гаварыць тут будзем мало, кожны ведае для чаго, бо маскаль не павінен ведаць, пераняўшы на прыпадак пісьмо гэта.

Доўга палякі ждалі памоцы з заграніцы, народы чужаземныя крычалі многа і да гэтай пары нічога для нас не зрабілі; кажуць, што яны ня маюць ніякай патрэбы сваей у польскім дзеле, каб на маскаля ісьці за нас ваяваці. Дзьвесці лет таму назад, а бацькі нашы ляпей ужэ казалі: «Калі маеш Бога ў сэрцу і прыказ Яго, памагай бліжнему» і ішлі бараніць хрысьціянства ад татарскай дзічы; да гэтакай памоцы хаця і маем права, но мы не вымагаем, няхай кожан робіць, як яму ляпей здаецца. Аднак сказаці тут трэба, што калі ўсе каралі падпісалі нашу няволю маскоўскую, то яны вельмі скрыўдзілі чэсьць сваю, што змыць гэтае бясчэсьце ня толька патрэба, но кожан мусіць, каб мець сумленьне чыстае. Для таго, знаючы, як стаіць наша дзела за граніцай, не перастаем

верыць, што мысьль Боска, правёўшы векі, ня дасьць загінуць праўдзе і справядлівасьці, калі ўжэ не найдзе для таго способу ў цяперашнім парадку, разарве гэты ўзёл дай паверне сілу народу куды схоча.

Нам адно сільна з шчырай верай за сваё стаяці трэба, а ронд наш павінен быць на ўсё чуткі, каб мог для дабра народнага за ўсяго карыставаць; сілы нашы яшчэ вялікі, ваяваць зь німі можам Бог ведае як доўга, но для таго трэба, з аднэй стараны, іх аберагаць, а з другой, вырабляць што раз то новыя. І так калі паўстаньне зроблена пад добрую пару, узрастае і ажыўляе народ, — ня ў час, марнуе сілы кожнага, аслабляе ў прастоце духа дай разводзіць страх і няверу ў дзела наша, у моц Божу. Ронд польскі і яго чыноўнікі ведаюць гэта і для таго, каб служылі добра перад Богам і сумленьнем народным, робяць ня штучныя завірухі, но, паняўшы духа народнага, яго патрэбы і волю, [будуць] падхватываць дай разумна застаўляць палкі народныя, а разьвіваючы непадатлівасьць у народных нескончоных бунтах, ставіць апору маскоўскаму ў нас панаваньню.

Работа тут ня хутка дай непаказна, но за то пэўна, і яна нас давядзе да канца добрага. Работа тут сярмяжна, для таго каб была скутэчна, павінна быць так шчыра і проста, як тое сэрца, што б’е пад сярмягай, як той розум мужыцкі, што не перабірае, калі рабіць трэба. Тагды слова ронду польскага — «вольнасьць, роўнасьць дай свабода народу» — пяройдзе ў кроў кожнага і цэла моц

маскоўская нас не пераможа, хаця ж бы яму самое пекла памагаці стала.

Рук ахвотных і сягодня ў нас даволі, но з голымі рукамі не ісьці на штыкі маскоўскія. Ронд польскі і яго чыноўнікі павінны добра над гэтым падумаць, грошы ў нас будуць, бо мы знаем патрэбу таго, бо мы маем спосабы на тое. Но каб за нашы грошы мы мелі што ў рукі ўзяці, Ронд польскі гэтаму зарадзіць; а калі натрапіць перашкоды, то пры памоцы Бога і свайго права, упісанага ў нашых грудзях, усё з часам пераможа.

Ты, аднак, Народзе, не дажыдайся, да з чым можаш ідзі ваяваці за свайго Бога, за сваё права, за сваю хвалу, за сваю бацькаўшчызну. Для цябе ўсё можна: нож, сякера, атрута; гэта твае спосабы, бо табе, як таму мужыку нявольнаму, бяспраўнаму, не прызнаюць права самаабароны, бо табе нічога ня можна. А калі народы загранічныя, зь дзіва разінуўшы рот, скажуць: «шалёныя», Ты, народзе вялікі і чэсны, праўдай ім адкажы, што яны таму прычынай, што гэта на іх сумленьне цяжкім грэхам ляжа.

***

Марыська чарнабрэва, галубка мая,
Гдзе ж ся падзела шчасьце і ясна доля твая?
Усё прайшло, — прайшло, як бы не бывала,
Адна страшэнна горыч у грудзях застала.

Калі за нашу праўду Бог нас стаў караці
Ды ў прадвечнага саду вялеў прападаці,

То мы прападзем марна, но праўды ня кінем,
Хутчэй Неба і шчасьце, як праўду, абмінем.

Не наракай, Марыся, на сваю бяздолю,
Но прыймі цяжкую кару Прадвечнага волю,
А калі мяне ўспомніш, шчыра памаліся,
То я з таго сьвету табе адазвуся.

Бывай здаровы, мужыцкі народзе,
Жыві ў шчасьці, жыві ў свабодзе.
І часам спамяні пра Яську твайго,
Што згінуў за праўду для дабра твайго.

А калі слова пяройдзе у дзела,
Тагды за праўду станавіся сьмела,
Бо адно з праўдай у грамадзе згодна
Дажджэш, Народзе, старасьці свабодна.

***

Браты мае, мужыкі родныя. З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіць мне да вас пісаці, і можа раз астатні. Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, — но ня жаль згінуць за тваю праўду.

Прыймі, народзе, па шчырасьці маё слова прадсьмертнае, бо яно як з таго сьвета толькі для дабра твайго напісана.

Нямаш, браткі, большага шчасьця на гэтым сьвеце, як калі чалавек у галаве мае розум і навуку. Тагды ён толька магчыме жыці ў багацтве,

папраўдзе, тагды ён толька, памаліўшысь Богу, заслужыць неба, калі збагаціць наукай розум, разаўе сэрца і радню цэлу сэрцам палюбіць. Но як дзень з ноччу ня ходзіць разам, так не ідзе разам наука праўдзіва зь няволяй маскоўскай. Дапокуль яна ў нас будзе, у нас нічога ня будзе, ня будзе праўды, багацтва і ніякай навукі, — адно намі, як скацінай, варочаць будуць не для дабра, но на пагібель нашу.

Для таго, Народзе, як толька калі пачуеш, што браты твае з-пад Варшавы б'юцца за праўду і свабоду, тагды і ты не аставайся ззаду, но, ухапіўшы за што зможаш, за касу, сакеру, цэлай грамадой ідзі ваяваці за сваё чалавечае і народнае права, за сваю зямлю радную.

Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тагды толькі зажывеш шчасьліва, калі над табою Маскаля ўжэ ня будзе.

Твой слуга Яська-гаспадар з-пад Вільні

**Аўтограф трэцяй часткі «Лістоў з-пад шыбеніцы»**


58

Braty maje, mużyki rodnyje.
Z pad szubienicy maskouskoj
pryjchodzić mnie da was pisaci,
i może raz astatni. Horko
pakinuć ziemielku rodnuju
i Ciebie, darahi moj narodzie.
Hrudzi zastohnuć, zabolić
serce,- no nie żal zhinuć za
twaju praudu.-
Pryjmi narodzie pa szczyrąści
maje słowo predśmiert-
nyje, bo jeno jak z taho świeta
tolko dla twaho dabra
napisano.-
Niemasz Bratkie bolszaho szcza-
ścia na hetom świeci, jak kali

czeławiek u haławie maje rozum
i nauku. Tahdy jon tolko mah-
czymie żyć u bahactwie pa-
prawdzie, tahdy jon tolko pa-
malinszyś Bohu zasłużyć
Niebo, kali zbahacić naukoj
rozum, razawje serce i rodniu
cełu sercom palubić.
No jak dzień s noczju nie chodzić
razom, tak nie idzie razom na-
uka prawdziwa z niawolaj
maskouskoj. Dapokul jena
u nas budzie, u nas niczoho
niabudzie, nie budzie prawdy-
bahactwa i nijakoj nauki;—

59

adno nami jak skacinoj waro-
czać budzie nie dla dabra, no
na pahibiel naszu.
Dla toho Narodzie, jak tolko kali
paczujesz, szto braty twaje
s pad Warszawy bjuć sa
za prawdu i swabodu, tahdy
i ty nie astawajsa s zadu,
no uchapiwszy za szto zmożesz,
za kosu, sakieru, cełoj hrama-
doj idzi wajawaci za swoje cze-
łowiecznoje i narodnoje prawa,
za swaju ziemlu radnuju.
Bo ja tabie s pad szubienicy kazu
Narodzie, szto tahdy tolko zaży-
wiesz szczaśliwo kali nad taboju



38—

Maskala uże nie budzie..

Twoj słuha [illegible]

Jaśko haspadar s pad Wilni.

Mużyčka Prauda

38

# Паказьнік асобаў

## Пра аўтара

Сяргей Абламейка нарадзіўся ў 1962 у Менску. Скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту і дактарантуру Люблінскага каталіцкага ўнівэрсытэту (Польшча). Доктар гісторыі. Працаваў сьлесарам на Менскім аўтамабільным заводзе, выкладаў гісторыю ў школе, быў навуковым супрацоўнікам Беларускага дзяржаўнага музэю народнай архітэктуры і побыту, а затым Скарынаўскага цэнтру Акадэміі навук Беларусі. Зь верасьня 1990 — журналіст «Свабоды» ў Менску, з траўня 1995 у Празе. Зь сярэдзіны 1980-х гадоў займаўся актыўнай грамадзкай дзейнасьцю, быў членам «Талакі». Адзін з арганізатараў першага Вольнага сойму беларускіх суполак (1987), выдавец часопісу «Унія» (1990). Аўтар некалькіх дзясяткаў навуковых публікацый па гісторыі Беларусі. З 1983 друкуецца як пісьменьнік і журналіст. Выдаў кнігі «EGOізмы», «Настальгія», «Мой Картаген», «Дом літаратара», «Нечаканы Скарына». Тэксты перакладаліся на італьянскую, польскую, расейскую і чэскую мовы.

## Summary

"Kalinouski and the Political Birth of Belarus" — is a book about the origins of the modern Belarusian nation and the role Vincent Kanstancin (Kastus) Kalinouski played as the nation's founding father.

It was only in the 19th century that the ethnonym "Belarusian" became permanently associated with the Belarusian people. The direct catalyst for this development was an anti-Russian uprising in the years 1863-64. This insurgency, while composed largely of Poles and Lithuanians, also had a distinct Belarusian national and ideological contingent, the leader of which was Kastus Kalinouski.

On February 1, 1863 it was officially declared that a "Provisional Provincial Government of Lithuania and Belarus" would have Kalinouski as its head.

According to the author, it was on this day that the first political institution of a new Belarus came into existence.

Siarhiej Ablameika has authored books of aphorisms, essays, short stories and numerous other works on Belarusian culture, the history of the Uniate (Greek-Catholic) Church of Bealrus, and national identity.

He works at Radio Free Europe/Radio Liberty, and lives in Prague.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.* **Прыгоды АРА ў Беларусі.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** 2-е выд., дапоўненае. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.* **Вострая Брама.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Беларуская Атлянтыда.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03–25.03.2006.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.* **Альбом сямейны.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.




**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.* **Імёны Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.* **Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.* **Мой шыбалет.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў.**
**Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў передачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009–2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.**
Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.*
**Справа Бяляцкага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.*
**Турма і здароўе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.*
**Хто ўзарваў менскае мэтро?**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.*
**Жывая мова.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :)**
**вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015.
668 с.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 324 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 722 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 364 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 544 с.: іл.




**Светлана Алексиевич на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 744 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Быў у пана верабейка гаварушчы...**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 326 с.: іл.




**100 словаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 346 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Не сьмяшыце мае прыназоўнікі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 316 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста другі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 388 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Высьпятак ад Скарыны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 500 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 174 с.: іл.




*Сяргей Шупа.*
**Падарожжа ў БНР.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 282 с. + 56 с. укл.: іл.




*Сяргей Абламейка.*
**Нечаканы Скарына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 328 с.: іл.




*Алена Струвэ.*
**Турма, жанчына і мужчына.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 434 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста трэці.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 536 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Клініка кітайскага дантыста.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2018. — 284 с.: +24 с.: іл.




**Сьвятлана Алексіевіч. 100 цытатаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 268 с.




*Сяргей Дубавец.*
**Тантамарэскі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 356 с.




*Алесь Пілецкі.*
**Казкі па целефоне.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2019. — 298 с.



*Дзьмітры Гурневіч.*
**Забойства ў цэнтры Эўропы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2020. — 248 с.: іл.